© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (719) 7 СНЕЖНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.

## Людзі нашага часу

# СІМБІЁЗ ЛЮДЗЕЙ І ДЗЕЯННЯ

Чыжы ляглі на ўраджайнай раўніне. Ад шашы не відаць дамоў вёскі, толькі кучу дрэў. Летам выдаюцца яны зялёным садам. Увосень без лісця і шэрыя дрэвы, бы старажы, сцерагуць вуліцы.

Чыжы славяцца многім: багаццем, але і грамадскімі ініцыятывамі, чысцінёй усюды і гасціннасцю. І яшчэ чымсьці, што б можна, шукаючы як найлепшага акрэслення, назваць гонарам за сваю вёску і яе людзей. Тут усе пра ўсіх расказваюць пахвальна, называюць людзей з іх найлепшага боку і цешацца, што разам, супольнымі сіламі і згодна ўсё робіцца. Інтэгральнасць пачыненняў і дзеянняў характарызуе вялікую вёску Чыжы.

Думаю, што як дойдзе (а дойдзе напэўна) да таго, што загінуць вёскі, а ўзнікнуць у нас вялікія цэнтры гарадскога характару з багатым культурным жыццём, Чыжы будуць адным з першых. І палажэннем і амбіцыямі сваімі падыходзяць яны да гэткай будучыні.

Цяпер кіраўнік школы (18 год працуе разам з жонкай у чыжоўскай школе) інфармуе, што грамадская рада нарадовая Чыжы дае 30 прац. даходу павету. А ў гэтай грамадзе называе найперш дзве найбольшыя вёскі: Чыжы і Курашава. Найбяднейшыя зноў Ляды, бо цераспалосіца.

З Курашавам у чыжоўцаў пайшло як бы навыперадкі, бо карэспандэнт напісаў у газету, што Чыжы павінны браць прыклад з Курашава, якое збудавала грамадскім чынам школу. Новая школа ў Чыжах — адвечная мара кіраўніка чыжоўскай школы і яго маладога энергічнага настаўніцкага штаба. Але таксама ўсіх дзяцей і людзей у Чыжах. Пытанне ставяць чыжоўцы, ці могуць яны зрывацца, каб чынам будаваць школу. Кажуць у Чыжах: мы чынам зрабілі вуліцу, чынам пабудавалі святліцу, дзве крамы і пункт аховы здароўя. А школа?.. Мы не супраць чыну і ў далейшым. Але школа ў Чыжах (васьмікласная, зборная) — гэта 3-мільённая інвестыцыя і патрабуе фаховага падыходу, а не чынавага зрыву, які нават і бываў...

Чыжоўскія Кульчакевічы непарыўна звязалі свой лёс з вёскай Чыжы. Ён (акрамя кіраўніцтва ў школе), сакратар партыйнай арганізацыі ў Чыжах, радны ГРН і член прэзідыума. Яна — вечны фермент у культурных ініцыятывах вёскі, хоць і праца ў школе і ўласны дом з дзяцьмі часу забіраюць шмат. Цяпер адна з дочак закончыла ўжо ліцэй, а другая вучыцца ў Гайнаўцы ў беларускім. (Самі Кульчакевічы па паходжанню палякі — калі гэта каго-небудзь цікавіць).

Кульчакевічы зараз сягнулі ў чыжоўскую традыцыю: на патрэбы беларускага музея ў Белавежы збіраюць з вёскі і ваколіцы экспанаты. Тут усё:

Працяг на стар. 4



### Шлёнск

Вось менавіта: чалавек і яго асяроддзе. Асяроддзе людзей, з якімі ён жыве, асяроддзе эканамічных і тэхнічных умоў, асяроддзе прыроды. Чалавек сам стварае сваё асяроддзе. Ці стварае яго разумна і «па-чалавечы?» Пытанні гэтыя насоўваюцца міжвольна, калі праязджаем праз найбольш прамыслова развіты раён краіны — Шлёнск.

Нядаўна давялося мне пабываць у Рыбніцкай вуглявой акрузе. Гэта адзін з малодшых і найбольш бурна развіваўшыхся прамысловых раёнаў краіны. Таму асабліва выразна стае тут праблема планавай, свядомай арганізацыі асяроддзя, у якім чалавеку даводзіцца жыць і працаваць.

Меў я аказію слухаць выказванні кіраўнікоў прамысловасці гэтай высокаразвітай прамысловай акругі, гутарыць з інжынерамі ды кіраўнікамі адміністрацыі. Вынікае, што ў высокаразвітай акрузе праблемай стаюцца найбольш паўсюдныя і звычайныя дары прыроды — прастора, паветра, вада — так паўсюдныя і звычайныя, што ў іншых умовах увогуле іх не заўважаецца.

Праблемай стаецца прастора. У Рыбніцкім павеце амаль зусім няма лесу. Павету пагражае поўная «урбанізацыя», гэта значыць поўнае занікненне вёсак і пераўтварэнне ўсяго павета ў адзін аграмадны горад. Архітэктары і планісты баяцца гэтага і стараюцца абмяжоўваць забудову да цесна абмежаванай прасторы прызначанай пад гарады. Планісты і архітэктары сцвярджаюць, што гэта дрэнна, калі ўвесь павет стаецца адным горадам, патрэбная прастора, паветра, лес. Але забудова пустой прасторы працягваецца надалей. Прычына перш за ўсё ў імкненні шахцёраў да будовы аднасямейных домікаў з агародчыкамі, а ў сувязі з гэтым — да разбудовы гарадоў ушыр.




Праблемай стаецца тут паветра, якое цэлыя суткі занечышчаюць грызучым, чорным дымам сотні комінаў. Інжынеры абсталёўваюць дарагія, складаныя ў будове, электрафільтры, якія чысцяць паветра ад дыму. Але не ўсюды даецца іх прымяніць, і дым надалей сваё робіць.

Інжынеры змагаюцца з недахопам вады, якой вялікія колькасці патрабуе прамысловасць. Лес садзяць тут на схілах штучных гор, усыпаных з адходаў шахтавай прадукцыі, а дамы будуюць моцна звязаныя жалезабетонам, каб не разваліліся яны пад уплывам штучных землетрасенняў, выкліканых выдабыццём аграмаднай масы вугалю з-пад зямлі.

А ўсё ўласціва зводзіцца да адной вялікай праблемы: як перабудаваць асяроддзе чалавечага жыцця згодна з патрэбамі сучаснай тэхнікі, каб адначасова не знішчыць неабходнай раўнавагі і парадку ў прыродзе.

Ля Рыбніка паказана журналістам мясцовасць пад названнем Ястшэмбе Здруй. Сказана: тут за некалькі гадоў будзе горад. Зараз з высокага пагорка аглядаць можна шырокі на цэлыя кіламетры пляц будовы. Гэта будзе звыш 100-тысячны горад, велічынёю амаль

Працяг на стар. 4

# БГКТ

## ПЛЕНУМ ГП

21 лістапада ў Беластоку адбыўся другі пленум ГП. Пасля ўступнага слова старшыні М. Хмялеўскага, сакратар прэзідыума ВРН Е. Кошэль уручыў Залаты Крыж Заслугі для старшыні Сямяціцкага аддзела БГКТ А. Мартыновіча, які ў ліпені быў у Мінску і таму адсутнічаў на ўрачыстасці адзначэння дзеячоў нацыянальных меншасцей у Варшаве.

Затым прысутныя мінутным маўчаннем ушанавалі памяць нядаўна памёршых: Я. Кіндзюка члена ГП, старшыні Дуброўскага аддзела і актывіста БГКТ В. Літвінчыка.

З дакладам Прэзідыума на тэму «Актуальныя задачы БГКТ у святле пастаноў VI з'езда БГКТ» выступіў сакратар ГП Я. Зенюк.

«Развіваючы і распаўсюджваючы беларускую культуру, — гаварыў дакладчык, — трэба звярнуць увагу перш за ўсё на багаты і цікавы наш фальклор. Яго трэба знайсці і забяспечыць так, каб не паміраў ён разам з людзьмі. Яго трэба апрацоўваць і рыхтаваць на сцэну нашым аматарскім калектывам, і тут здаецца, што нашы гурткі, аддзелы і школы, у якіх навучаецца беларускую мову, зрабілі шмат, але яшчэ значна больш трэба зрабіць у гэтым напрамку. Гэтым мы адкрыем глыбокі бяздонны калодзеж, запоўнены багатым і разнародным рэпертуарам».

У дакладзе шмат увагі таксама прысвяцілася супрацоўніцтву з іншымі арганізацыямі, беларускаму школьніцтву, працы аддзелаў і гурткоў БГКТ турыстыцы і патрыятычнаму выхаванню.

«Турыстыка — гэта адна з форм патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання чалавека — падкрэсліў сакратар ГП. — Трэба як найбольш арганізаваць экскурсій цікавымі шляхамі нашай айчыны».

Пасля даклада працаўнік ГП Л. Антанюк прачытала апрацаваную Прэзідыумам праграму святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння Ул. І. Леніна. Пасля даклада пачалася дыскусія, у якой выступіла 19 асоб.

С. Крэйза звяртаў увагу на неабходнасць шырокай прапаганды ідэй Леніна на прапаганду яго шматлікіх прац. Бо моладзь недастаткова з гэтым знаёмая. Прапанаваў ён падрыхтаваць літаратурны мантаж аб Леніне.

У. Навіцкі гаварыў аб тым, што радыёперадачы на беларускай мове адбываюцца ў неадпаведных гадзінах (7.15), якраз тады, калі ўсе пойдуць на работу.

С. Яновіч закрануў справу чытальніцтва беларускіх кніжак. У вясковых бібліятэках, сцвярджаў ён, беларускіх кніжак ёсць каля 5% агульнага ліку кніжак, а ў школах каля 4%.

«Кніжкі ёсць у Беластоку ў кнігарні на вуліцы Кілінскага і ляжаць яны проста на зямлі. Няма каму імі займацца. Патрэбны ёсць высылковы пункт. У справах распаўсюджвання беларускай кніжкі ёсць многа балагану, — гаворыў аб гэтым у сваім выступленні Г. Валкавыцкі.

А. Баршчэўскі даказваў патрэбу большага звяртання ўвагі ў сярэдніх школах на палітычную асвету. Бо на экзаменах на вышэйшыя ўстановы выпускнікі сярэдніх школ часта не ведаюць элементарных спраў, якія датычаць палітычна-гістарычных пытанняў. Далей ён вельмі пераканаўчымі прыкладамі даказваў, што неабходна, каб ГП БГКТ як найбольш арганізавала экскурсій, бо яны маюць аграмадны выхаваўчы ўплыў. А. Баршчэўскі звяртаў увагу таксама на тое, што пастанова ВРН з 1966 года адносна дапамогі дзяржаўнай адміністрацыі і для нацыянальных меншасцей слаба рэалізуецца.

М. Куц — прадстаўнік ВРН-у паінфармаваў прысутных, што справа пастановы ВРН з 1966 года хутка будзе абмяркоўвацца на прэзідыуме ВРН.

О. Паўлючук інфармавала аб дрэннай сітуацыі з навучаннем беларускай мовы ў Сакольскім павеце. Няма там інструктара беларускай мовы, не праводзяцца метадычныя канферэнцыі для выкладчыкаў беларускай мовы, а прапаганда каталіцкага клеру прычыняецца да памяншэння колькасці дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову.

У. Юзвюк прапанаваў знайсці ў ГП сродкі на апрацоўку радыёгутарак і на збор экспанатаў да этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы. Прапанаваў ён таксама апрацаваць план збору фальклору.

(Працяг на стар. 5)

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# Ці цяжка быць солтысам?

Калі ўявіць сабе ўвесь апарат дзяржаўнай улады ў выглядзе нейкага стага, дык яго асновай будзе солтыс.

«Солтыс, — гаварыў мне адзін з прадстаўнікоў гэтай пасады, — бы тая крывая вярба, што на яе ўсе козы скачуць. Ён з чортам мусіць жыць у згодзе і перад Богам яму нельга саграшыць».

Солтыс вёскі Сухавольцы ў Гайнаўскім павеце Васіль Гілеўскі, пачуўшы маё пытанне, заклапочана сказаў:

— Ці цяжка...? Цяжка, ды як яшчэ цяжка!. І падаткі, і кантрактацыя, і... угнаенні... Асабліва гэтыя ўгнаенні... З кожным да зубоў прыходзіцца грызціся. А гаспадароў у нас 84. Не скажу, ёсць людзі свядомыя. Для прыкладу Дзмітры Шклярук, Павел Масальскі, Павел Нагірэвіч, Уладзімір Зялінка, Шымон Багроўскі... Яны разумеюць важную праблему. Без націску выкупілі сваю долю ўгнаенняў. Але вось Іван Зялінка... Колькі разоў я да яго хадзіў! А ён: «Пайшоў ты беднаму Ванюшцы... — так гне адразу.

За ўгнаенні плаціць жа трэба. Я сам учора ў ГС-е быў. Паглядзіце, квіты маю. На адным — амаль 1600 зл., а на другім — звыш 500. І то яшчэ са скідкай за кантрактацыю. А ў каго гаспадарка вялікая, скажам 12—15 гектараў, дык на ўгнаенні трэба 8—9 тысяч злотых аддаць. Яно пэўна, як кажуць, аплочваецца, бо плён лепшы. На плён аднак прыходзіцца чакаць цэлы год, а грошы трэба аддаць адразу. А вазьміце кантрактацыю. Сухавольскія гаспадары, а як жа, кантрактуюць ахвотна, толькі лубін, грэчку, ды бульбу і кажуць, што на збожжа ім зямлі не хапае, хаця на закантрактаванае збожжа высокая цана і 40% скідкі пры пакупцы штучных угнаенняў. Астаткова мы не выканалі плана па кантрактацыі збожжа. Ізноў бяда солтысу. Яго першага лаяць на розных нарадах.

Падзякаваў я солтысу з Сухавольцаў і далей паехаў шукаць адказу на пытанне: ці цяжка быць солтысам? У Навасадах замест солтыса застаў я старэнькую яго маці.

— Сын мой, — з гордасцю заявіла яна, — солтысам ужо сёмы год. А ці цяжка быць солтысам? А чаго мае быць цяжка! Ці гэта за плугам хадзіць, ці цэпам малаціць? І на плячах гэтага не трэба насіць.

У вёсцы Макаўка даведаўся я, што солтыс «на заробках» у Нарве. Відаць абавязкі солтыса не займаюць яму многа часу, калі можа ён справіцца з уласнай гаспадаркай, ды яшчэ пайсці «на заробак». Прышлося ехаць у Нарву. Нарва — ні то вёска, ні то горад, дзе жыве 280 гаспадароў — таксама мае свайго солтыса. Гэта Ян Янушэўскі. Старэйшы, звыш 60-гадовы ўжо, але вельмі энергічны чалавек.

— Да солтыса, — кажа ён, — усе лезуць як да той паненкі, якая нікому не шкадуе. Мала лезуць! Часта і розуму вучыць збіраюцца. Прыедзе такі... Можа ён і разумнейшы... Не пярэчу. Паслухаў бы яго, ахвотна павучыўся б. А ён адразу гне зверху, страх наводзіць... Дык я яму прапаную да людзей пайсці. Зайдзем у адну, другую хату. А там, як яму нейкая баба лекцыю прачытае, дык панок хутчэй за клямку! Ужо ў яго часу няма. «Пане солтыс, — кажа, — вы самі разбірайцеся». Так яно здараецца. Ужо лепш чараду пасвіць! Але што ж? Выбралі. Трох кандыдатаў было. Я атрымаў найбольш галасоў. А праблем балючых шмат. Вось ужо трэці дзень хаджу і збіраю подпісы на камасацыю зямлі. Трэба, каб прынамсі палавіна гаспадароў падпісалася, што згодны. Ападаткаваліся мы на асвятленне Нарвы. 150 тысяч сабралі, ужо 2 гады чакаем, а старшыня прэзідыума кажа, што няма нейкіх там «яжэнёвак». Людзі баяцца, каб нашы грошы ў цемнаце недзе зусім не прапалі. А прэтэнзіі да каго? — да солтыса. Моладзі ў нас многа, няма дзе ёй дзявацца, прыдалася б нейкая сельскагаспадарчая або іншая прафесіянальная школа. І людзі зноў: солтыс, старайся. А вазьмі пастарайся! Я ўжо аднаму паслу, які ў нас быў тут на сустрэчы, пра тое гаварыў...

Ці цяжка тады быць солтысам? Вывады пакідаю чытачам. (Ад сябе дадам, што солтыса выбіраюць жыхары вёскі на 3 гады. За сваю працу солтыс атрымоўвае нейкі працэнт ад сумы падаткаў. У месяц складае гэта ў сярэднім 1000—1200 зл., а ў вялікіх і багатых вёсках, дзе многа зямлі, здараецца зарабляць солтысу да 3 тысяч зл. Так прынамсі гаварыў мне кіраўнік арганізацыйна-праўнага аддзела ПРН у Бельску У. Кучынскі. У апошнім часе абавязкі солтыса значна пашырыліся. Ён цяпер непасрэдна адказны за ажыццяўленне планаў пакупкі штучных угнаенняў, кантрактацыі, барацьбы з пустазеллем і т.п. вясковых спраў).

М. НУРЭЦКІ

# „ІМШАР"

За мілай сэрцу беларускай назвай «Імшар» тоіцца папулярная ў Польшчы і заграніцай фірма, якая займаецца эксплуатацыяй гарбачоўскіх тарфянікаў за Новай Воляй, у Беластоцкім павеце. Гэта фірма пачала жыць у мінулым годзе, але аб патрэбе выкарыстання тых нашых багаццяў гаварылася ў беластоцкіх кабінетах хіба з пятнаццаць гадоў таму назад.



*Казік Зіневіч, добры капальнік торфу.*

Працуе каля ста дваццаці рабочых, а, праўду кажучы, гаспадароў з навакольных вёсак, якім добра падзарабіць да сваіх пятакласавых гектараў. У пачатку жыцця «Імшару» кіраўнік Аляксандр Харкевіч сам ездзіў па Польшчы з агітацыяй аб дабрадзейнасцях тарфянога перагною ў агародніцкай ды загоннай гаспадарцы. А цяпер «Імшар» нават не паспявае з рэалізацыяй заказаў ахвотных на гарбачоўскі торф, паклады якога падлічаны на сотню і больш год. Прадукцыя — восем тысяч балотаў штомесяц. Балот, таксама як бы сваяцкая назва, гэта порцыя па сваёй вазе блізкая «мэтра».

У складзе бачыў я элегантна апакаваныя балоты заграпічным заказчыкам — у Францыі, Амерыцы. Словам, доларавая зона. Плануецца ў будучым выпуск балотаў, так сказаць, палепшаных. Гэта субстраты з дамешкамі патрэбных мінеральных угнаенняў. Выгода заказчыкам, большыя грошы «Імшару». Так можна акрэсліць ініцыятыву. Добрую, з вялікай замашкаю.

У наступным годзе рушыць прадукцыя баравінавай пасты для патрэб санаторыяў краіны. Паста дасць хіба найбольшую славу «Імшару», а з часам можа і абароты. І хто мог падумаць, што пад пакірачанымі дрэўцамі ў багоннай даліне вялізнай ляжыць столькі скарбаў, патрэбных, як хлеб агароднікам і людскому здароўю!

«Імшар» пераймаецца не толькі тым, як лепш і даражэй прадаваць нашы скарбы, даць працу людзям і заробак, але таксама шмат робіць дзеля ўздыму дабрабыту ў ваколіцы. Менавіта, арганізуе майстэрні розных рамесных спецыяльнасцей у вёсках. Думка, за якую належацца адны словы пахвалы. Так яно павінна быць: фабрыка, якая дбае толькі пра сябе гэта фабрыка-эгаіст. «Імшар» не такі. Тут прадаецца спільсненыя пліты, якіх са свечкаю шукаць у ГС-аўскіх магазінах запушчаных. Тут рамантуюць сельскагападарчыя машыны, коні куюць і г. д. Харкевіч сказаў: — Адкрываем заўтра



*Кіраўнік «Імшару» Аляксандр Харкевіч правярае балоты, прызначаныя на экспарт у Італію.*

сталярню ў Юшкавым Грудзе. Яшчэ адну майстэрню адкрыем можа ў Мацейкавай Гары, у Бандарах, у Круглым Ляску. Патрэбныя машыны дамо...

За гэты год рамесных паслуг насельніцтву будзе зроблена на суму сто тысяч злотых. У наступным годзе — на мільён. У дзесяць разоў больш! Вось, такая сабе, маленькая рэвалюцыя, каб гаспадарам лягчэй было жыць і хлеб рабіць.

(ся)



*«Імшар» наладзіў майстэрні сельскагаспадарчых паслуг навакольным вёскам. Іван Зубрыцкі ля такарнага станка.*

*Фатаграфаваў — Р. Сянька, Цаф*



*Гатовыя балоты з торфам едуць проста на рампу.*

Трэба дадаць, што на суседняй дошцы каляровай крэйдай былі выпісаны паасобныя адменныя часціны мовы, а гэта было ўзорам, якім колерам падкрэсліваць адпаведную часціну мовы ў тэксце. Часціны мовы, з якімі дзеці яшчэ не знаёміліся, настаўніца называла і гаварыла, што яны абазначаюць інфармуючы, што пазнаёмяцца з імі ў старэйшых класах.

Правёўшы такі аналіз, — пры дапамозе адпаведных пытанняў настаўніцы, — вучні называюць тэму ўрока, а настаўніца запісвае яе на дошцы і загадвае вучням запісаць у сшыткі. Потым завешвае на дошцы наступную табліцу: «Назоўнік», «дзеяслоў», «прыметнік», «лічэбнік», «займеннікі».

Вучні ўпісваюць гэты ўзор у свае сшыткі, а потым у паасобныя рубрыкі ўпісваюць выдзеленыя часціны мовы з паданага тэксту на дошцы. Затым настаўніца завешвае іншую табліцу з наступным тэкстам: «за, кожны, змагаецца, грамадзянін, мір, павінен». З гэтых слоў вучні павінны скласці сказ і запісаць яго ў сшытак.

На заканчэнне наступае кароценькае паўтарэнне таго, што гаварылася на ўроку, дамашняя работа. Потым вучні вылучаюць тых сваіх сяброў, якія былі найбольш актыўнымі на ўроку, за што ім настаўніца ставіць ацэнкі. На гэтым канчаецца ўрок.

А. К.

На старонках лістападаўскага нумара

# ПОЛЫМЯ

Друкуецца заканчэнне рамана У. Карпава «Сотая маладосць», на які звярталі мы ўвагу ў папярэдніх нумарах. Іван Шамякін выступае з апавяданнем «Хлеб»: пра першыя гады савецкай улады: ленінская тэма, а Андрэй Макаёнак з трагікамедыяй у 2-х дзеях «Зацюканы апостал»: сатырычны вобраз сучаснага буржуазнага асяроддзя. З вершаў надрукаваных у нумары асаблівую ўвагу прыцягвае паэзія яўрэйскага паэта Хаіма Мальцінскага. Часопіс надрукаваў таксама паэму нямецкага паэта Макса Цымерынга «Крокам Кастрычніка» і верш індыйскага — Басаварадж Катымані — «Ленін». Багаты перакладчыцкі матэрыял нумара дапаўняюць тры апавяданні вянгерскіх пісьменнікаў: Енё Хелтаі, Ференца Шанта і Цібара Чэраша. У раздзеле «ўспамінаў» аб гістарычных падзеях на славутым крэйсеры «Аўрора» расказвае член экіпажа карабля Гусеў. Вобразу правадыра рэвалюцыі прысвечана даследванне Анатоля Фядосіка «Ленін і фальклор». Багаты матэрыял да навучання беларускай літаратуры могуць пачэрпнуць нашы настаўнікі і з публікацый Віктара Каваленкі (аб Міхасю Лынькове), Уладзіміра Караткевіча (аб Максіме Лужаніне) і Рыгора Бярозкіна (аб Цётцы). Чытачам, якія цікавяцца новым у навуцы, прапануем прачытаць артыкул В. Бабровіча «Навука аб натхненні...» (аб новай навуцы-эўрыстыцы). Апрача іншых матэрыялаў, друкуюцца таксама новыя вершы П. Броўкі, А. Грачанікава, К. Цвіркі, А. Сербантовіча і С. Шушкевіча.

ЮВЭ

(Працяг са стар. 1)

# БГКТ

А зноў сакратар нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце ПАРП С. Зялінскі запрапанаваў рабіць захады, каб у Беластоку праводзіліся агульнапольскія фестывалі аматарскага руху нацыянальных меншасцей.

У дыскусіі выступілі таксама: Я. Цялушэцкі, В. Баршчэўскі, П. Германюк, М. Самоцік, Я. Зенюк, М. Матэйчык, П. Кізевіч, А. Мартыновіч і О. Падлашчык. Амаль усе дыскутанты падтрымлівалі ініцыятыву пакупкі аўтакара для ГП і задумваліся над тым, як найлепш ушанаваць 100-ую гадавіну з дня нараджэння Леніна.

Наступным пунктам парадку дня былі арганізацыйныя справы. Пленум прыняў у свой склад прадстаўніка Ваяводскага праўлення ЗМВ О. Падлашчык. Пленум зацвердзіў асабовы склад пакліканых Прэзідыумам наступных камісій ГП: выдавецкай, этнаграфічнай, асветнай, культуры, прапаганды і склад лектарскай групы. Пленум з некаторымі папраўкамі прыняў праграму святкавання 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна. Пленум пастанавіў, каб даклад Прэзідыума быў дырэктывам для далейшай працы БГКТ.

(МХ)



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ

# МОВА МАСТАЦКАГА ТВОРА

Вышэй указаная тэма выступае, паводле праграмы навучання беларускай мовы, ад шостага класа. Тэма — мова мастацкага твора — абшырная. Мы займемся толькі некаторымі паняццямі гэтай тэмы: эпітэтам, сінонімамі, параўнаннямі, метафарай і ўвасабленнем. антытэзай і паэтычнай мовай.

Карыстаючыся словам, пісьменнік можа данесці да чытача не толькі розныя думкі, але і глыбока раскрыць пачуцці і перажыванні чалавека, паказаць яго ў сувязі з іншымі людзьмі, намаляваць жыццё ў форме карцін. Сваёй маляўнічасці твор дасягае дзякуючы ўласцівасцям мастацкай мовы.

Мастацкая мова, або, дакладней, мова мастацкай літаратуры, узнікла на аснове народнай мовы. Ад апошняй яна адрозніваецца большай упарадкаванасцю — гэта мова апрацаваная, ачышчаная ад выпадковых, незразумелых слоў. Мастацкая мова ад мовы навуковых кніг, — якая галоўным чынам служыць для перадачы думак, — адрозніваецца тым, што яна здольна не толькі перадаваць думкі, але і ствараць яркія вобразы, карціны.

Мова мастацкай літаратуры не з'яўляецца аднароднай. У ёй вызначаецца два віды — мова вершаваная і празаічная. Найбольш своеасаблівая вершаваная мова. Паэтычная мова гучыць размерна, музыкальна, і сваім гучаннем выклікае ў чытача пэўныя ўражанні, уяўленні, гэта значыць удзельнічае ў стварэнні вобразаў. Паэтычная мова звычайна бывае вельмі насычанай рознымі вобразнымі выразамі напр. «збажынкі радасна смяюцца», «гойдаюцца травы», «зашэпчуць краскі між сабою, нібы дзяўчаткі маладыя» (Я. Колас «Новая зямля»).

СІНОНІМЫ. У стварэнні мастацкіх карцін і вобразаў вялікае значэнне мае падбор слоў, якія найбольш дакладна выказваюць думку і выклікаюць у чытачоў пэўнае ўяўленне, пачуццё. Пошукі дакладнага слова — гэта часцей за ўсё пошукі сіноніма. Са шматлікіх слоў — сінонімаў, г. зн. слоў, блізкіх па сэнсу і розных па напісанню, пісьменнік выбірае тое, якое найбольш адпавядае яго задуме. Напр. «Мой родны кут, як ты мне мілы» з «Новай зямлі». У беларускай мове можна знайсці шмат слоў, якія б заступілі «родны кут» — хаця б радзіма, родная зямля, родная мясціна, родныя разлогі, родныя прасторы і г.д. Колас з усіх сінанімічных выбраў «родны кут». Чаму? Яны, відаць, найбольш адпавядалі характару размовы, задушэўнай, авеянай успамінамі маленства, уражаннямі дзяцінства.

Значэнне сінонімаў у мастацкай мове заключаецца і ў тым, што яны робяць мову шматфарбнай, багатай рознымі адценнямі.

ЭПІТЭТ — мастацкае азначэнне, якое вобразна характарызуе прадмет або якую-небудзь жыццёвую з'яву (напр. ручэй *срэбразвонны*, ручэй смяецца *гучным* смехам, ён то *сярдзіта* бубніць — словы падкрэсленыя дапамагаюць стварыць жывы малюнак ручая).

Эпітэты могуць быць выражаны словамі ў прамым значэнні (*аснежаная* зямля) і ў пераносным. Эпітэты, выражаныя словамі ў пераносным значэнні, наз. метафарычнымі.

У народных песнях і казках, а таксама ў літаратурных творах, напісаных пад уплывам народнай паэзіі, часта сустракаюцца сталыя або фальклорныя эпітэты (ночка *цёмная*, поле *шырокае*, мора *сіняе*).

ПАРАЎНАННЕМ — называецца супастаўленне двух прадметаў або дзвюх з'яў на аснове іх падабенства. (Вясёлы гром, *нібы грукат калёс...*) Народнай мове ўласцівы ўстойлівыя або народныя параўнанні: чорны як сажа; чысты як сляза; цвёрды як камень і г.д.

У наступным адрэзку аб метафары, антытэзе і паэтычнай мове.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ПАЛЯВАННЕ З ВЕРТАЛЁТА

Вось ужо некалькі год амерыканскі біёлаг Джэк Лентфер палюе на белых мядзведзяў з верталёта. Выявіўшы звера, ён усыпляе яго стралою, змочаную хуткадзейнічаючым снатворным, затым, апусціўшыся на зямлю, мерае велічыню жывёліны, прымацоўвае значок з нумарам і іншымі данымі і адпускае на свабоду.

## КУЛІНАРЫЯ

### ГУЛЯШ

Нарэзаць маленькімі кавалачкамі I кілаграм ялавічыны і абсмажыць у 125 грамах свінога тлушчу. Дадаць 3 галоўкі рэпчатай цыбулі, абабранай і дробна нарэзанай, I чайную лыжку чырвонага молатага перцу, 10 грамаў солі, чорны молаты перац па смаку, зубок часнаку і 2 чайныя лыжкі мукі. Да смажанага мяса дадаць паўтара літра булёну або паўтара літра вару і 3—4 штукі ачышчаных кансерваваных памідораў або I сталовую лыжку таматнага пюрэ.

Варыць на слабым агні прыкладна дзве з палавінай гадзіны і падаць на стол, гарніраваўшы варанай бульбай.

### ПАШТЭТ

Прапусціць праз мясарубку 250 грамаў напалавіну зваранай ялавічнай пячонкі, 150 грамаў свінога сала, цыбуліну і 250 грамаў свініны або вяндліны. Дадаць 100 грамаў замочанага ў малацэ або вадзе белага хлеба, 2 яйкі, соль, чорны молаты перац і крыху нацёртай на тарцы лімоннай цэдры.

У змазаную тлушчам форму пакласці прыгатаваную сумесь і пакрыць некалькімі тоненькімі кавалачкамі сала. Зверху закрыць пергаментнай паперай. Запякаць на працягу 45 мінут. Калі паштэт астыне, нарэзаць яго на кавалачкі і гарніраваць нарэзанымі салёнымі агуркамі і долькамі звараных укрутую яек.

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

*КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА*

У гэтым сельскагаспадарчым годзе працаўнікі калгасных палёў вобласці атрымалі вялікую перамогу, сабраўшы выдатны ўраджай зернавых і зернабобавых культур. На здымку: першая абласная канферэнцыя калгаснікаў. Заслужаны калгаснік сельгасарцелі «Зара» Карэліцкага раёна Ю. Сыч падносіць членам прэзідыума канферэнцыі каравай з зярна новага ўраджаю.

*Фота В. Косціна*

### З НАРОДНЫХ РЭЦЭПТАЎ

● Каб пры цукровым дыябеце зменшыць утрыманне цукру ў крыві, добра прыгатаваць такую сумесь. Бярэце 100 гр. карэння пятрушкі, 100 гр. часнаку і 2 вялікія лімоны. Карэнне пятрушкі (ні ў якім разе не чысціць!), часнок пачысціць, лімоны памыць (скурку не зразаць!) і ўсё пацерці на бульбяной тарцы. Старанна вымешаць і скласці ў слоік. Трымаць у халадзільніку. Прымаць тры разы на дзень за 20 хвілін да яды па чайнай лыжцы.

● Пазбавіцца ад экземы можна пры дапамозе наступнай мазі. Вазьміце лыжку ачышчанага дзёгцю (яго можна купіць у аптэцы), адзін жаўток і сталовую лыжку 20-працэнтных вяршкоў. Дзёгаць з жаўтком разатрыце ў фарфоравай ступцы (нельга браць металічную пасуду), а пасля паступова ўліце вяршкі, працягваючы расціраць. Гатовую мазь захоўвайце ў слоіку або бутэльцы. Паражоныя ўчасткі скуры нанач змазвайце маззю, зверху злёгку абгарніце тонкім слоем ваты і завяжыце бінтом. Так трэба зрабіць некалькі разоў.

## Чэрць стагоддзя назад

НАПАЛЕОН РЫДЗЕЎСКІ

# ПАРАШУТЫ НА ДРЭВАХ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Шпакаў уважліва вывучаў маршрут па карце. Трэба было ісці праз невялікія рэчкі, чыгункі, аўтамабільныя дарогі. Пераходзіць іх асабліва небяспечна, але ж суцяшала тое, што вакол былі вялікія лясы.

Мы ўжо некалькі гадзін ішлі начным лесам. Было цёмна і душна. Раптам патыхнула вільгаццю і прахалодай, і нізка, здавалася, на самыя верхавіны дрэў, насунуліся цёмныя хмары. Недзе ззаду мільганулі бліскавіцы, загрымеў гром.

— Будзе навальніца! — сказаў Шпакаў.

Ён сказаў гэта на поўны голас, а не шэптам, як прывык ужо гаварыць тут, у варожым стане. Адразу падумалася, што навальніца на нейкі час аддаліла небяспеку, якая падсцерагала нас. Усе мы з палёгкай уздыхнулі, спала насцярожанасць, напружанне нерваў.

Мы прыпыніліся, каб надзейна схавацць ад дажджу рэчы, якія баяцца вільгаці. Можна было, вядома, і самім укрыцца — у кожнага была плашч-накідка. Але ж у паходзе накідкі вельмі нязручныя. Яны то надзімаюцца ветразямі, то закручваюцца на ногі — стрымліваюць хаду. І ўсё ж не гэта галоўнае. Накінутыя на галовы башлыкі не даюць магчымасці чуць, што робіцца вакол, а вуха трэба трымаць востра. Таму мы рашылі ісці, падставіўшы сябе дажджу і ветру, не хаваючыся ад непагадзі. Бо тут яна, непагадзь, наша саюзніца.

Трывожна зашапацела лісце, ляснуў пярун, і дождж хлынуў, як з вядра. Лесам ісці было немагчыма. Па твары білі галіны, частыя маланкі сляпілі нас. Мы збочылі і, трымаючыся адзін за аднаго, выйшлі ў поле. Тут бліскавіцы далёка асвятлялі нам шлях, мы спяшаліся напрасткі, не баючыся наскочыць на што-небудзь, як у лесе, пакалечыць вочы аб галіны. Засады ў такую навальніцу на адкрытым месцы мы не асцерагаліся — лічылі яе малаверагоднай.

Раптам пачуўся нейкі падземны гул, ён нарастаў, набліжаўся, і мы не паспелі ачомацца, як міма нас лавінай прамчаўся вялізны конскі табун. Ён прагрукацеў, як горны абвал, зусім побач, абдаўшы нас пырскамі гразі. Мы толькі паспелі ўцяміць, якая небяспека мінула нас, як зноў усё паўтарылася. Толькі цяпер табун пранёсся назад з другога боку ад нас, зноў гэтак жа блізка. Бліснула маланка, ляснуў пярун — коні заржалі трывожна і жахліва, рассыпаліся ва ўсе бакі, распусціўшы грывы на ветры.

— Хутчэй за мной! — крыкнуў Шпакаў. І мы кінуліся да купкі дрэў, што стаялі наперадзе, каб уратавацца ад спуджаных навальніцай коней.

— Усё такі нам шанцуе... — ціха, як сам сабе, сказаў Іван Цэлікаў. — Каб наскочылі на нас — на муку перамалолі б нашы костачкі капытамі.

Ніхто нічога не адказаў на гэта. Адразу ж за дрэвамі пачыналася поле аддзеленае ад лесу ровам. За ровам — калючы дрот. Роў быў поўны вады, шырокі. Марудзіць было нельга. Вада даходзіла нам амаль да пояса. Зноў настаў тупат, і мы імгненна перабраліся цераз канаву. Пералезлі плот. Прайшлі поле. Зноў быў лес.

Дождж не сунімаўся. Мы спыніліся пад шатамі густога, разложыстага дрэва.

— Там вось агеньчык свеціцца, — сказаў Генка, паказаўшы ўбок.

Прыгледзеліся і ўбачылі між вялізных прысад хутар.

— Схадзіце са Зварыкам праверце, што там робіцца, — загадаў Шпакаў.

Неўзабаве, вярнуўшыся, яны расказалі:

— На двары грузавікі стаяць. Вады наліло па калені, але мы падышлі да самага акна. У хаце спіць, паклаўшы галаву на стол, нейкі фрыц у салдацкай форме. Відаць, вартавы схаваўся ад дажджу.

— Трэба ўзяць яго, — сказаў Шпакаў.

— Але ж ён раней прачнецца, чым мы парог пераступім, — разважаў Зварыка.

— А што, калі я пайду туды, — падала голас Аня. — Зайду ў хату і скажу, што на ганку хворая жанчына засталася. Папрашу, каб дапамог у хату ўвесці, пагрэцца. Ну, у бальніцу трэба нам, але пад дождж трапілі. Калі ён выйдзе, тады вы яго і схопіце. А калі што — застрэлю. Яна змоўкла, чакаючы, як будзе ўспрынята яе прапанова.

Шпакаў крыху памаўчаў, раздумваючы.

— Ну, хадзем... Там відаць будзе, што рабіць...

Падышлі, прыслухаліся, прыглядаючыся да чорных крытых грузавікоў. Ціха. Толькі, як у бубен, дробна барабаніць дождж па брызенце. Шпакаў і я па вадзе, стараючыся не плюхаць, паўз сцяну падкраліся да акна. Як і гаварылі Генка са Зварыкам, за сталом спаў салдат. Ля сцяны стаяла вінтоўка.

Дзверы ў сенцы былі адамкнёны. Утраіх мы бясшумна падышлі да другіх дзвярэй, намацалі клямку. Аня расчыніла дзверы. Немец прыўзняў галаву, чакаючы, што скажа жанчына ў прамоклай плямістай куртцы.

— Можна мне зайсці? — спытала яна па-нямецку.

З сянец нам добра было відаць двухпавярховыя нары. Злева ля сцяны стаяла піраміда вінтовак. Значыць, мы трапілі ў казарму. Салдаты храплі пад шум дажджу на ўсю хату. Пацягнула цяжкім, спёртым паветрам, кіслым пахам скураной амуніцыі, гуталінам.

«Вось бы шугануць сюды пару гранат — ніводзін бы не ўцалеў!» — міжвольна прамільгнула думка. Але ж такія дыверсіі не ўваходзілі ў планы разведчыкаў. Больш таго, строга забаранялася займацца не сваёй справай.

— Так, так, — адказаў салдат і паволна ўстаў з-за стала. Ён узяў у рукі вінтоўку, зрабіў крок насустрач Ані і нягучна, каб не патрывожыць сон астатніх, спытаў: — Што здарылася?



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ТРЫБУНА чытачоў

### ШКОЛЫ ЦЭНТРАМІ КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ

На Дуброўшчыне ў вёсках яшчэ недастатковая колькасць клубакавярняў і святліц. Яшчэ ў многіх вёсках няма дзе сабрацца моладзі, няма дзе арганізаваць культурна-асветныя мерапрыемствы. У гэтай справе прыходзяць з дапамогаю школы. Зараз на Дуброўшчыне налічваецца 12 школ, якія з'яўляюцца сапраўднымі цэнтрамі культурнага жыцця вёсак.

(мх)

### ПАЎДНЁВА-АСТРАЎСКІ СЕЛЬГАСГУРТОК

Да нядаўна нічога цікава не рабілася ў сельскагаспадарчым гуртку ў Паўднёвым Востраве, што на Сакольшчыне. Але дзякуючы таму, што ў мінулым годзе змянілася кіраўніцтва, сельгасгурток пачаў актывізавацца да працы. Узначальвае яго Міша Жамойда. Дыспазітарам выбраны Уладзімір Хомчык, а бухгалтарам — Анатоль Хмялеўскі. Пад новым кіраўніцтвам ажывілася дзейнасць гуртка. Праўленне пачало купляць сельскагаспадарчыя машыны і рацыянальна іх выкарыстоўваць. Зараз на палях Паўночнага Вострава працуе 3 трактары і шмат іншых машын.

(СМ)

*У Скупаве нядобра*

### ХУЛІГАНСТВА

Яшчэ не мінуў год, як у вёсцы Скупава пастаўлена будка на прыпынку ПКС. Шмат гадоў цягнулася справа яе пабудовы. Гаспадары вёскі скаліся па 10 зл., але гэта вельмі мала. Тады прэзас сельскагаспадарчага гуртка ў Скупаве Рыгор Янюк і скарбнік Васіль Казёл пашлі ад хаты да хаты і сабралі на будку дошак. За сабраныя грошы Васіль Казёл зрабіў будку, а вучні скупаўскай школы ўставілі шыбы.

І вось нейкія хуліганы павыбівалі шыбы ў вокнах. Так што няма дзе цяпер схавацца ад ветру, бо ў будцы такі скразняк, што халадней, чым на дварэ. А так было зацішна ад ветру, і было добра відаць праз вокны, калі едзе аўтобус.

### ЗЛАДЗЕІ

Як Скупава Скупавам то яшчэ такога дзіва не было. Пачала з ямаў бульба гінуць. Не хочацца проста верыць, аднак гэта праўда. У жыхароў Івана Янцэвіча і Антона Кісялеўскага пакралі бульбу. А ў Міхася Такарука то каля пяці метраў бульбы забралі.

Штопраўда, былі выпадкі пакражы бульбы з ямаў вясной. Але ўвосень не было яшчэ чуваць. Як бачыце, у Скупаве завяліся зладзеі. Нават капусту з агародаў пакралі ў некаторых гаспадароў. Гэта непрыемная справа.

В. Я.

---

— На ганку хворая жанчына. Ёй зусім дрэнна, памажыце...

Ледзь салдат пераступіў парог, мы налажылі яму кляп, заламалі рукі і — без усякага шуму вывелі. Аня зачыніла дзверы. Палоннага адвялі ў поле, селі ў канаве і дапыталі. Аказалася, што мы натрапілі на сувязістаў пяхотнага палка, які размяшчаецца ў гэтай зоне, чакаючы адпраўкі на фронт. Нас цікавіла, ці ведаюць салдаты пра савецкіх парашутыстаў.

— О, так, так, — заківаў галавой палонны. — Мы ўсе папярэджаны. Дадзена ўказанне больш пільна несці патрульную службу.

— Чаго ж ты парушыў гэтае ўказанне — спаў на пасту? — спытаў Мельнікаў па-руску.

Але немец не зразумеў яго. Тады Мельнікаў злажыў далонямі рукі і схіліў на іх галаву, заплюшчыўшы вочы.

— Чаму спаў, пытаюся, на пасту? Служыць надаела, ці што? Вось даложым Гітлеру, дык усыпле па тоўстым азадку. — І жэстам паказаў, як гэта будзе.

— Надаель вайна. Плёх жизнь солдайт.

— Бачыш ты яго, ужо і надаела! Гатовы не ваяваць, толькі б не чапалі яго самога. Нябось, такі азадак наеў на рускім сале? Мо і хату не адну спаліў, у дзяцей страляў?

Надта важных паказанняў ад немца мы не атрымалі. Усё ж нам карысна было дазнацца, што аб нашым знаходжанні тут ведаюць і ваенныя, і жыхары хутароў. Трэба быць вельмі асцярожнымі.

(ПРАЦЯГ БУДЗЕ)

### МАЛА ДЗЯЦЕЙ

Прапаганда свядомага мацярынства дала ўжо знаць аб сабе. Значна менш цяпер нараджаецца дзяцей. У некаторых мясцовасцях, як у Пасецы на Бельшчыне, закрыта школа з прычыны недахопу дзяцей. Некалькі школьнікаў вымушаны хадзіць у суседнюю вёску Краснавесь. А зноў у Пасынках на наступны 1970/71 навучальны год у першы клас запісана толькі адно дзіцё. Не намнога лепшая сітуацыя і ў іншых школах. На гэтую тэму з хваляваннем гавораць настаўнікі. (мс)

### ЗМВ І ПАЖАРНІКІ

Усё больш дзяўчат з'яўляецца членамі пажарнай аховы. Напрыклад, у Юшкавым Грудзе ў Беластоцкім павеце дзяўчаты члены Саюза вясковай моладзі належаць да добраахвотніцкай пажарнай аховы. А зноў у Сухавольцах на Гайнаўшчыне ёсць жаночая дружына пажарнай аховы. (см)

### ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ

Пачатковая школа № 3 у Бельску Падляшскім, у якой навучаецца беларуская мова, з кожным годам павышае ўзровень дыдактычна-выхаваўчай працы. Там усе прадметы аднолькава важныя, там усе настаўнікі з'яўляюцца сапраўднымі майстрамі сваёй прафесіі, а кіраўнік школы Янка Суліма — добрым арганізатарам. Вось і таму вынікі навучання вельмі ж добрыя ў гэтай школе. Аб гэтым сведчыць наступны факт. У мінулым годзе восьмы клас закончылі ўсе дзеці. Было іх 54. З іх 52 здалі экзамены ў ліцэі, тэхнікумы і прафесіянальныя засадныя школы. А гэтыя два вучні з суседняй вёскі Пранявічы асталіся працаваць на гаспадарцы. Гэта таксама добра, бо і хлебаробы патрэбныя. (мс)

### НАСТАЎНІКІ І МОЛАДЗЬ

У Кожыне на Бельшчыне дзякуючы дапамозе настаўнікаў моладзь добра арганізуе культурнае жыццё вёскі. Супольна падрыхтавалі тут п'есу, з якой выступае моладзь у сваёй і суседніх вёсках. Зараз таксама настаўнікі і моладзь шукаюць добрую п'есу да падрыхтоўкі. (мм)

### МІКАЛАЙ РАМАНЮК

Мікалай Раманюк з Дубяжына (Бельскі павет) з'яўляецца ў сваёй вёсцы старшынёй сельскагаспадарчага гуртка. У сувязі з тым мае шмат працы. Але ён, як і некаторыя іншыя дубяжынцы, любіць песню, любіць спяваць. І вось разам са сваімі калегамі — аднавяскоўцамі выказаў ахвоту быць членам харавога калектыву Бельскага аддзела БГКТ. І нягледзячы на сваю занятасць у сельгасгуртку, Мікалай Раманюк заўсёды знаходзіць час прыязджаць у Бельск на рэпетыцыі хору, а калі трэба — разам з усім калектывам выязджае на выступленні. (хх)




*ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!*

Многа дзяўчат і хлопцаў скарысталі з тваіх парад. Вось і я таксама хачу прасіць цябе парады.

Жыву я на вёсцы. Вучуся ў восьмым класе пачатковай школы. Вельмі хачу пісаць кніжкі, ды не ведаю, у якую трэба будзе паступіць школу, каб можна было іх пісаць. Я вельмі хачу быць пісьменнікам.

Парай Сэрцайка і падай мне адрас такой школы. За параду буду вельмі ўдзячны.

*Грыша з Гайнаўшчыны*

Грыша! Перш, чым пісаць кніжкі, трэба іх чытаць і то чытаць як найбольш. Няма такой школы, якая б вучыла пісаць кніжкі. Мець толькі жаданне стаць пісьменнікам, гэта станоўча замала. Бо каб пісаць, трэба мець перш за ўсё талент, а потым адукацыю. Праца пісьменнікаў і паэтаў цяжкая. Гэта не так проста, як табе выдаецца — сеў за стол, узяў пяро і напісаў кніжку. А табе цяпер раю вучыцца, добра вучыцца і многа чытаць. Перад табой яшчэ будучыня.

*Жадаю поспехаў у навуцы*
*Сэрцайка*

### НОВЫ АБ'ЕКТ

У вёсцы Рудуты (Бельскі павет) будуецца мураваны будынак, дзе будзе змяшчацца святліца разам з рамізай.

Ініцыятарам гэтага карыснага пачыну з'яўляецца мясцовая пажарная каманда супольна з партыйнай арганізацыяй, на чале з выдатным дзеячам гэтай вёскі Дзмітрам Бахэнкам. Жыхары вёскі многа грамадска дапамаглі пры першых работах гэтага аб'екта. Будынак будзе аддадзены ў карыстанне на другі год. Муруюць яго муляры з вёскі Кашалі.

М. П.

### ПЕРАДАВІКІ

Удзельнікі калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, а асабліва перадавікі гэтых калектываў, праяўляюць вялікую актыўнасць у грамадскім жыцці сваіх мясцовасцей. Яны з'яўляюцца прапагатарамі ўсяго новага ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Вось, напрыклад, Пётр Нічыпарук з Нарвы. Ён на сваім доследчым палетку ў пераліку на І га атрымаў 460 цэнтнераў буракоў. У яго дасканала абсталяваныя хлявы. Яны з вокнамі, пабелены вапнаю, добра зроблены жолабы. Браў ён удзел у конкурсе гадоўлі цялят. А зноў Іван Шатыловіч з Дашоў на сваім доследчым палетку засеяў чырвоную канюшыну. Ураджай з двух пакосаў канюшыны ў пераліку на І га склаў 65 цэнтнераў сухой кармавой пашы. Ён таксама быў удзельнікам конкурсу гадоўлі цялят.

*Віталіс Назарук*

## ФАЛЬКЛОР

Ой, Божэ, мой Божэ, мой едыны
Нікому німа так добрэ, як моей радзіне,
Бо ў мае радзіны жэнцы поле ўкрылі,
А ў мэне беднае німа й половіны.

У мае радзіны жыто і пшаніца,
У мане маладое куколь і мэтліца,
Як на маём полі пшаніца родзіла,
Тады мане бедну радзіна любіла.

Як на маём полі куколь разавіўся,
Тады пра мэне мой род забыўсе.
Ой, каколю, каколю не сейсе по полю,
Сейсе на балоці, не буду палоці.

Ой, хлопцы вы хлопцы, хлопцы маладые.
Ідзеце запрагайце коні вороные.
Едзьце, даганяйце лета маладые.
Дагналі лета ў Коралёвым Мосці,
Вэрнецеся лета хоць на дзень у госці.

А мы не вэрнемсе, былі ў цябэ ў хаці,
Было замуж не йсці, но лет шанаваці
І мужа выбіраці.

Выбрала мужа, якого хацела,
Цяпэр што дзенёчок галоўка не цэла.

*Ад Ніны Тэлешэўскай*
*з вёскі Ваські (Гайнаўскі пав.)*
*запісаў Я. Цялушэцкі*



*Парасткі новага Гарадка.*
*Фота — Р. Сянько, Цаф*

УСЕ НАШЫ САПРАЎДНЫЯ СЯБРЫ ЎЖО ВЫПІСАЛІ «НІВУ» НА 1970 ГОД. КАЛІ ВЫ ЯШЧЭ ГЭТАГА НЕ ЗРАБІЛІ — ПАСПЯШАЙЦЕСЯ: ТЭРМІН ПАДПІСКІ КАНЧАЕЦЦА.

**ЛОЗУНГ ТЫДНЯ:**

**Толькі скнара**
**і лянівы**
**Не выпісывае „Нівы"**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 9—10. „Jo-jo" (franc.), 11—12. „Dzika Elżbieta" (czeski), 13—14.

**Дубіны**
„Krzyżacy" (polski), „Wątła nić" (USA), 13—14.

**Нараўка**
„Cena strachu" (franc.), „Gorzkie życie" (włoski), 10—14.

**Нарва**
„Start" (belg.), „Wiryneja" (radziecki), 10—14.

**Чыжы**
„On nie chciał zabijać" (radz.), „Zakochana wiedźma" (włoski), 10—14.

**Дубічы Царкоўныя**
„Testament gangstera" (franc.), „Tak się zaczęło" (NRD), 10—14.

**Арэшкава**
„Salto" (polski), „Testament Agi" (węgierski), 13—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), „Tarahumara" (meksykański), 10—14.

**Орля**
„Maskarada szpiegów" (angl.), „Manewry Dniepr" (radz.), 10—14.

**Райск**
„Umarli milczą" (NRD), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Był sobie dziad i baba" (radz.), „Sąd" (radz.), 9—13.

**Міхалова**
„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), 9—10. „Wiryneja" (radz.), 11—12. „Czerwone i złote" (polski), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Stawka większa niż życie" (polski), 9—10. „Jezioro starej sowy" (NRD), 11—12. „Koniec Agenta W-4C" (czeski), 13—14.

**Янаў**
„Grawitacja" (jugosł.), 10—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Żyrafa w oknie" (polski), 10—11. „Polowanie na męża" (franc.), 12—13. „Przygoda z piosenką" (polski), 14—15.

**Мельнік**
„Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 9—10. „Jej 7 wieczorów" (czeski), 11—12. „Czerwone i złote" (polski), 13—14.

**Мілейчыцы**
„Trzy godziny miłości" (jugosłowiański), 9—10. „Francja naprzód" (franc.), 11—12. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski) 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Stawka większa niż życie" (polski), 10—14.

**Новы Двор**
„Wilcze echa" (polski), „Prywatna burza" (czeski), 13—14.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul Wronia 23. Nr konta PKC I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7023



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# РЭКАМЕНДАЦЫЙНЫ ЛІСТ

Ужо доўгі час паміж мною і дырэктарам кааператыва «Бот» Маеўскім працягваюцца сваркі. Урэшце дырэктар вырашыў з гэтым пакончыць. Ён запрасіў мяне на таварыскую размову за шклянкай кавы і чаркай ачышчанай.

— Пане Пегасік, я люблю шчырасць... — сказаў ён. — Я больш не цешу сябе надзеяй! З вамі мы не паладзім. Я пашукаю сабе іншага бухгалтара... Але я не хачу вас нішчыць, у вас жонка, дачка, камяні ў нырках...

— Сардэчна дзякую за ўвагу...

— Не варта. Я заўсёды быў прыхільны да людзей! Вось вам рэкамендацыйны ліст да дырэктара кааператыва «Тапчан» Вішнеўскага... Я яго ведаю, мой ліст падзейнічае на яго бездакорна.

Я ўзяў канверт з рэкамендацыйным лістам і ўжо на наступны дзень сядзеў насупраць Вішнеўскага, разглядаючы яго фізіяномію колеру варанага бурака.

Ён распячатаў канверт, уважліва прачытаў ліст, добразычліва ўсміхнуўся, а праз некалькі дзён я ўжо працаваў бухгалтарам кааператыва «Тапчан».

Прайшоў месяц, і паміж мною і Вішнеўскім пачаліся сваркі, як дзве кроплі падобныя на тыя, што прычынілі мне толькі турбот у «Боце». У мінулы панядзелак дайшло да непрыемнай сцэны. Дырэктар паклікаў мяне ў кабінет і адразу пачаў крычаць:

— Абманулі вы мяне, пане Пегасік!

— Я вас?

— Так! Вас не пазнаць, вы зусім змяніліся, я чакаў ад вас зусім іншага.

— А чаго менавіта?

Дырэктар пашнырыў тоўстымі пальцамі ў шуфлядзе стала, знайшоў рэкамендацыйны ліст Маеўскага і працягнуў мне.

— Чытайце!

Я хутка прабег вачыма ліст, які рэкамендаваў мяне як бухгалтара, і спыніўся на характарыстыцы маёй асобы:

«Свой у дошку. Любіць выпіць. Падатлівы. Любіць маніпуляцыі, якія абыходзяць устаноўленыя правілы...»

Мяне апанавала лютасць.

— Але ж гэта — неймаверная хлусня! — закрычаў я. — Нічога гэтага не люблю. Усё наадварот!

— У тым-та і справа! — уздыхнуў дырэктар і паказаў мне на дзверы.

ЯН ГУШЧА

# НІЧКА



*Ці не надта доўгая, мама?*

## Талаваломка

Сярод гэтых блытаных ліній скрыты рысунак. Яго можна выявіць, калі зачарніць палі, адзначаныя кропкамі.



Адказ на заданне з папярэдняга нумара:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 6 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 5 | 6 | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 4 | 5 | 6 | 1 | 2 | 3 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 1 | 2 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 1 |

### АДПАЧЫНАК

— Дзе ты правёў свой адпачынак?
— Адну палову ў гаражы...
— А другую?
— У гіпсе.

### СУРОВЫ «МАРАЛІСТ»

— Дзядзька, дай закурыць.
— Ідзі адсюль, курэц! Малако яшчэ на губах не абсохла.
— Ды не, гэта ж не малако, а піва.
— А, тады на, закуры.

### ВЕРНАЯ ПРЫКМЕТА

— Манька, гэта не твой гаспадар ляжыць п'яны ля гасподы і песню спявае?
— А што ён спявае?
— «За туманам нічога не бачна».
— Не, гэта не мой. Мой Нікадзім такой песні не ведае.

### НА ПАСТАРУНКУ

Я прыйшоў забраць сваю скаргу аб украдзеным гадзінніку. Я яго знайшоў.
— Позна. Мы ўжо арыштавалі злодзея.

*Без слоў.*



### У РЭСТАРАНЕ

Кліент гаворыць афіцыянтцы:
— Што гэта ў вас напітак такі мутны?
— Напітак не мутны, гэта шклянка брудная.

### НА СВОЙ АРШЫН

Слану на спіну муха села...
Тут машкара ўся загудзела:
— Глядзіце, вось дзе спрыт, дзе сіла, —
Слана і то, бач, прыручыла!

Г. ДЗМІТРЭНКА

### ЗЫЧЛІВАЯ КУМА

Кума частуе кавай куму:
— Пі, кумачка, пі: я ж не лічу шклянак — выпіла дзве, выпі яшчэ адну.

### НЕ ПАМЫЛІЎСЯ

Бацька гаворыць сыну-школьніку:
— Завошта табе сёння двойку паставілі? Пэўна памыліўся з адказам на пытанне?
— Не, не памыліўся. Я маўчаў, бо не ведаў, што адказваць.



*Зацягнуўшаеся наваселле.*

### ДАРЭМНЫ ПЕРАПАЛОХ

Пажарнікі прыехалі тады, калі ўжо хата згарэла. Стаяць, здзіўляюцца:
— Дарэмна прыехалі — пажару ж ніякага няма... Зноў нехта памылкова пазваніў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Яна Казберука і Віці Бушко з Белавежы змяшчаем песню п. з.

## Если б гармошка умела

Слова А. Фатьянова

Музыка А. Лепіна

Не для тебя ли
В садах наших вишни
Рано так начали зреть,
Рано веселые звездочки вышли,
Что б на тебя посмотреть.

В мире тебя нет красивей,
Ты словно песнь соловья,
Ты словно в небе широком и синем
Ранняя зорька моя,
Да ранняя зорька моя.

Птицы тебя всюды песней встречают,
Ждет ветерок у окна.
Ночью дорогу тебе освещает,
Выйдя навстречу, луна.

Если б гармошка умела
Все говорить, не тая,
Русая девушка в кофточке белой,
Где ты, ромашка моя,
Где ты, ромашка моя?

Где бы я ни был, ты помни о друге.
Жди, как любимые ждут.
Ведь о тебе все гармошки в округе
Лучшие песни поют.

В мире тебя нет красивей,
Ты словно песнь соловья,
Ты словно в небе широком и синем
Ранняя зорька моя,
Да ранняя зорька моя.

Мне, дорогая, сердечные муки
Спать до утра не дают.
Ведь о тебе все гармошки в округе
Лучшие песни поют.

Если б гармошка умела
Все говорить, не тая,
Русая девушка в кофточке белой,
Где ты, ромашка моя,
Где ты, ромашка моя?



### СКНАРА

— Дзядзька, чаму вы на ноч свой гадзіннік спыняеце?
— Таму, што ўночы ён мне не патрэбен, а шасцяронкі зношваюцца...

# Курёзы

### 13-ГАДОВАЯ ПІЛОТКА



Наймалодшым, бадай, спартыўным пілотам на свеце з'яўляецца 13-гадовая жыхарка Паўднёвай Афрыкі, Петра Даўкінс. Права вадзіць самалёты атрымала пасля... 12 гадзін трэніровачных палётаў. Яна кажа, што экзамен з пілатажу быў куды лягчэйшы чым з матэматыкі ў школе.

### ДВА СВАЕ КОЛЫ

Херлуф Бідструп пісаў аб сваёй краіне: «Данія — маленькая краіна, густа населеная веласіпедамі». Сапраўды, колькасць веласіпедаў у Даніі ўжо зраўнялася з колькасцю жыхароў. Так што адшукаць свой экіпаж, скажам, пры выхадзе з кіно або са стадыёна — амаль тое ж самае, што паспрабаваць знайсці мурашку, якая ўкусіла вас, сярод яе сабратоў па кучы. І самае дзіўнае тое, што датчане ўхітраюцца разбірацца ў гэтым веласіпедным мурашніку.

### ЦАР У ПУЛКАВЕ

Аднойчы вядомы астраном Струве, дырэктар Пулкаўскай абсерваторыі, прызнаўся, што яму было не па сабе, калі цар са сваёю світаю, якая была пры ўсіх ардэнах, наведаў Пулкава.
— Разумееце, — казаў Струве, — я ўбачыў такое мноства зорак, і ўсе яны былі не на сваіх месцах.



З двух зайцоў больш палахлівы той, які сцвярджае, што ён леў.

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025
© PDF: Kamunikat.org 2025